www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 31 (4180)**

18 красавіка 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Падпісацца на «Народную Волю» можна ў любы дзень у любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку».**

КРОПКІ НАД "І"

## Як для Ямала-Ненецкай аўтаномнай акругі

*Уладзімір Сямашка ўдакладніў цану расійскага газу для Беларусі*

Кошт за 1 тыс. кубаметраў будзе складаць 129 долараў у 2018 годзе і 127 долараў у 2019 годзе, паведаміў намеснік прэм'ер-міністра ў эфіры тэлеканала «Беларусь 1».

Паводле слоў Сямашкі, гэтая цана з'яўляецца фіксаванай «незалежна ад кан'юнктуры цэн на нафту і газ». Цана на газ для Беларусі заснавана на формуле, якая прывязана да цаны на газ у Ямала-Ненецкай аўтаномнай акрузе.

*«Калі б усё заставалася, як да пачатку перамоў, то цана была б пад 150 долараў, таму гэта зніжка істотная»,* – падкрэсліў ён.

Акрамя таго, паводле слоў намесніка прэм'ер-міністра Беларусі, да 1 ліпеня 2019 года будуць сфармуляваны ўмовы заключэння новага газавага кантракта паміж дзвюма краінамі на перыяд з 2020-га па 2023 год.

АКЦЫЯ

## «Чарнобыльскі Шлях» дазволілі

*Мерапрыемства пройдзе 26 красавіка.*

Як паведаміў маладзёжны актывіст **Дзяніс Садоўскі**, Мінгарвыканкам даў дазвол на правядзенне «Чарнобыльскага Шляху-2017».

Збор адбудзецца ля Акадэміі навук у 14.00 з шэсцем па вуліцы Сурганава і мітынгам на плошчы Бангалор з 16.00 да 16.30.

РЭГІСТРАТУРА

## У Мінск размеркаваны 166 маладых урачоў

Але закрыць усе вакансіі не атрымаецца. Сталіцы сёння не хапае 441 урача-спецыяліста. Гарадской сістэме аховы здароўя, як ніводнай іншай, бракуе кадраў. Таксама медыцынскім установам Мінска патрабуецца 772 медыцынскія сястры і 132 фельчары-лабаранты.

Дарэчы, большасць сёлетніх выпускнікоў лячэбнага факультэта Беларускага дзяржаўнага медуніверсітэта былі размеркаваны ў Мінск. Факультэт скончылі 235 чалавек, і для 166 з іх першым месцам працы стаў Мінск, яшчэ 74 атрымалі размеркаванне ў Мінскую вобласць.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Наста ДАШКЕВІЧ:

## «Тата дома, дзеткі гагочуць – усё добра!»

*У мінулыя выхадныя, праз тры тыдні пасля затрымання, выйшаў на волю са следчага ізалятара актывіст Зміцер Дашкевіч.*

Нагадаем, што Дашкевіча затрымалі напярэдадні Дня Волі па «справе аб падрыхтоўцы масавых беспарадкаў". Яму прад'явілі абвінавачанне паводле часткі 3 артыкула 293 Крымінальнага кодэкса.

*"Нягледзячы на тое, што мяне адпусцілі з ізалятара, застаюся ў статусе падазронага,* – распавёў Зміцер пасля свайго вызвалення. – *Увогуле, уся гэта гісторыя нагадвае нейкі дрэнны анекдот. Першапачаткова мяне абвінавачвалі ў падрыхтоўцы да масавых беспарадкаў з 2011 года. Але да 2013 года я ж быў за кратамі... Не ўяўляю, як з такой базай доказаў, якая ёсць у сілавікоў, "справу патрыётаў" можна давесці да суда. Таму, спадзяюся, усе затрыманыя будуць вызвалены».*

Але больш за ўсё чакалі вызвалення Зміцера яго жонка Наста і маленькія дзеткі – Мара і Давід, якія раней сфатаграфаваліся з плакатам "Кот вярнуўся – і тата вернецца".

*"Безумоўна, цяжка застацца амаль на месяц з двума дзецьмі на руках, але дапамагалі сябры,* – распавяла "Народнай Волі" **Наста Дашкевіч**. – *Затрыманне Зміцера было нечаканым для ўсёй нашай сям'і, але было шмат падтрымкі і шмат ахвочых дапамагчы. Гэта вельмі ратавала, бо людзі маглі і з дзецьмі пасядзець, і прыгатаваную ежу прынесці для іх. Людская салідарнасць робіць вялікія справы".*

Вызваленне супала з Велікодным святам, таму Насце было чым пачаставаць мужа.

*"Столькі кулічоў нам надарылі, што самі есці не спраўляемся, а таму вымушаны іх таксама дарыць,* – дадае яна. – *Дзеці вельмі задаволены, яны ж так сумавалі! Мара ўвесь дзень не адпускала тату ні на крок ад сябе, а Давід бегаў побач і радасна гагатаў... Тата дома, дзеткі гагочуць – усё добра!"*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЗАКУЛІССЕ



REUTERS Dado Ruvic/Коллаж РИА Новости Украина

## Ці выніковым будзе візіт у Вашынгтон?

*Беларуская дэлегацыя з 19 па 21 красавіка возьме ўдзел у вясновай сесіі Міжнароднага валютнага фонду і Сусветнага банка ў Вашынгтоне.*

У склад дэлегацыі, паводле інфармацыі БелаПАН, увайшлі кіруючыя работнікі эканамічных ведамстваў краіны – Нацыянальнага банка, Міністэрства фінансаў, Міністэрства эканомікі. Акрамя гэтага, у Вашынгтон накіруецца прадстаўнік Міністэрства замежных спраў.

*«У беларускай дэлегацыі запланаваны сустрэчы з кіраўніцтвам МВФ, Сусветнага банка, а таксама з прадстаўнікамі іх профільных дэпартаментаў. Вядома ж, падчас перамоў з МВФ у Вашынгтоне будуць працягнуты перамовы аб умовах новай крэдытнай праграмы»,* – паведаміў БелаПАН эксперт у фінансавых колах.

Ён адзначыў, што пакуль здагадкі адносна тэрмінаў заключэння крэдытнай праграмы рабіць заўчасна.

Як паведамлялася, у сакавіку прадстаўнікі МВФ знаходзіліся з рабочым візітам у Мінску і сустракаліся з Аляксандрам Лукашэнкам, аднак наконт вынікаў перамоў афіцыйных заяў не прагучала.

*«Пасля сакавіцкай сустрэчы з Лукашэнкам прадстаўнікі фонду адзначаюць, што гатоўнасць супрацоўнічаць у беларускага боку стала значна вышэйшай, чым увосень, але да чаго гэта прывядзе, пакуль не вядома»,* – паведаміла крыніца, у якой нядаўна адбылася сустрэча з прадстаўнікамі МВФ.

Як вядома, Беларусь вядзе перамовы з МВФ аб заключэнні крэдытнай праграмы ўжо амаль два гады. Працэс гэты пачаўся яшчэ вясной 2015 года, калі беларускія ўлады ў супрацоўніцтве з Сусветным банкам сталі рыхтаваць «дарожную карту» па рэфармаванні эканомікі.

ФАКТ



Фото: profi-forex.org

## Зрух!

Менавіта гэтае слова адлюстроўвае той факт, што, як паведаміў Белстат, валавы ўнутраны прадукт за студзень--сакавік 2017 года вырас у Беларусі ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года на 0,3 працэнта. Гэта пры тым, што паводле вынікаў студзеня-лютага было яшчэ падзенне на 1 працэнт.

ВІЗІТ

## У Мінску – дэлегацыя Пастаяннага камітэта Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў

Як стала вядома, прыбыла яна ў Беларусь не з пустымі рукамі. Усекітайскі сход народных прадстаўнікоў падарыў Нацыянальнаму сходу нашай краіны 10 легкавых аўтамабіляў Geely. На адным з іх разам з прадстаўніком кітайскай дэлегацыі праехаўся старшыня Савета Рэспублікі Міхаіл Мясніковіч, які, калі выйшаў з аўтамабіля, сказаў: "Добры!"

Учора прайшлі перамовы паміж парламентарыямі Кітая і Беларусі з падпісаннем шэрагу дакументаў.



*М.Мясніковіч пасля тэсціравання кітайскага аўтамабіля.*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА



## Игра в отличия

В пасхальное воскресенье президент Турции Реджеп Тайип Эрдоган выиграл референдум о расширении полномочий. Шквал публикаций о том, насколько теперь Турция стала дальше от Европы и ближе к Беларуси, уже начался. Хотя я не торопился бы с выводами.

Это во времена моей юности, когда кроме кроссвордов печатные издания размещали у себя всевозможные ребусы и шарады, была и такая игра. Публикуют две картинки и просят найти десять отличий. Вот сидит досужий читатель и рассматривает: ага, на левой собака в ошейнике с пряжкой, а на правой – без пряжки; на левой у цветка пять лепестков, а на правой – шесть. Хотя – какая разница, с пряжкой ошейник или без пряжки?

В нашем случае разница есть.

Эрдоган выиграл свой референдум со счетом примерно 51,5% против 48,5%. Как уже успел заметить в полемике на своей страничке «Фейсбука» известный комментатор Радио Свобода Юрий Дракохруст, фактически продемонстрировано, что около половины населения вовсе не жаждет усиления президентской власти. Согласитесь: такие результаты отнюдь не свидетельствуют о желании добиться «элегантной и сокрушительной» победы над оппонентами. Скорее можно констатировать, что фальсификаций – в привычных нам масштабах – не было. Не борщ варили, а проводили реальную политическую кампанию.

Эрдоган проводил свою конституционную реформу после очередной попытки военного переворота. Напомним, что по действовавшей до позавчерашнего дня турецкой Конституции армия имела право на вмешательство в политический процесс вплоть до физического устранения (не убийства, разумеется, но задержания и арестов) неугодных генералитету политиков. В свое время мэр Стамбула Эрдоган сам прошел через подобные аресты и лишение политических прав. Так что еще нужно проанализировать, меньше или больше стало демократии в Турции после этого референдума.

Во многом Эрдоган – учитывая столь незначительный отрыв в поданных голосах – обязан своей победой турецкой эмиграции в Европе. Как заметил другой обозреватель Радио Свобода – Ярослав Шимов, наибольший процент поддержки оказала многочисленная турецкая диаспора в Германии – около 77,7%. Да, сработал ностальгический комплекс: на родине и горчица слаще, и диктатор приятней. Но, с другой стороны, очевидно, что этот аванс придется и отрабатывать. Как бы ни критиковали президента Турции европейские политики, уже во время подготовки к референдуму Эрдоган уверял всех, что страна не будет удаляться от Европейского Союза, а напротив – попытается все-таки добиться рассмотрения своей заявки. И это, кстати, объясняет, почему Эрдогану было так важно получить «чистый», не сфальсифицированный результат.

Но тут уже начинаются и сходства с нашей до боли знакомой ситуацией.

Турецкий лидер уверял всех, что предлагаемые им конституционные реформы направлены на достижение политической стабильности в стране. Главным препятствием к этому был слишком развитый в Турции парламентаризм. Ну, его и свернули. Сходство весьма ощутимо.

Оппозиция уже заявила, что результатов референдума не признает. Начались и первые акции протеста. В тот момент, когда я готовлю этот комментарий, их пока не разгоняют, однако ничто не исключено.

Ну и наконец самое существенное. Эрдоган объявил о готовности провести еще один референдум – о возвращении в Турции смертной казни. Очевидно, что это приведет к исключению страны из Совета Европы. Ну, стало быть, Минск и Анкара действительно превратятся в закадычных дружбанов. Пока не слишком, правда, понятно, что будет с турецким пребыванием в НАТО, но тут уже карт бланш находится в руках совсем другого политика – рыжего и американского. А ему как Бог на душу положит, так оно и будет.

В общем, понятно, что у Александра Лукашенко был повод поздравить «своего большого друга» с одержанной победой. Учитывая необходимость укрепления отношений с Евросоюзом, я на его месте торопиться не стал бы. Но я ведь и не на его месте.

Что же касается возможности отдыха в Турции, то что-то мне подсказывает, что отели в Анталии не почувствуют изменения политического климата в стране. Для отдыхающих ведь что главное? Солнце, вода, мягкий песок, теплый ветерок. Главное – чтобы грело, но не обжигало. Вот это Эрдоган может гарантировать и без референдума.

ЗА ПРАХАДНОЙ

## Што паабяцаў Іван Галаваты?

На мінулым тыдні мантажнікі трэста «Раммантажбуд», якія абслугоўваюць 1-е рудаўпраўленне ААТ «Беларуськалій», абурыліся тым, што заробкі не растуць, а падаюць. І правялі стыхійны сход.

– Я ў сакавіку 2016 года зарабляў 1400 рублёў, калі лічыць на новыя грошы, сёлета – 710, – расказаў старшыня незалежнага прафсаюза трэста «Раммантажбуд» **Сяргей Баброў.**

Менавіта гэта падштурхнула яго і іншых мантажнікаў зладзіць стыхійны сход. Акцыя доўжылася дзве гадзіны. Людзі абмеркавалі сітуацыю, якая склалася з зарплатамі, выпусцілі, як кажуць, пару і разышліся, дакладней – ізноў прыняліся за працу.

Трэст «Раммантажбуд» не ўваходзіць у структуру ААТ, прадпрыемства было вылучана ў самастойную адзінку ў 2014 годзе, але "Беларуськалій" з'яўляецца заснавальнікам трэста, гэта значыць пэўным гарантам забеспячэння яго заказамі. Таму ў перамовы прыйшлося ўключыцца генеральнаму дырэктару ААТ «Беларуськалій» **Івану Галаватаму**.

– Ён сустрэўся з мітынгоўшчыкамі яшчэ ўвечары ў чацвер, не стаў чакаць 17 красавіка, як папярэдне планавалася, – гаворыць старшыня пярвічнай арганізацыі незалежнага прафсаюза гарнякоў ААТ «Беларуськалій" **Сяргей Чаркасаў**. – Праўда, на яе запрасілі не ўсіх, хто браў удзел у акцыі, а толькі некалькі чалавек, а таксама брыгадзіраў, некаторых кіраўнікоў трэста.

**– І якія вынікі?**

– На сустрэчы былі члены нашага прафсаюза, яны засталіся задаволеныя гутаркай. Сказалі, што Галаваты іх пачуў, паабяцаў прыняць меры, каб рабочыя мелі працу і маглі нармальна зарабляць. Усе разумеюць, што за адзін дзень, за тыдзень і, магчыма, нават за месяц сітуацыю не вырашыць. Але факт застаецца фактам: кіраўніцтва ААТ як наймальнік, заснавальнік трэста прыняло рашэнне заняцца набалелай праблемай.

**– Зарплату павысяць?**

– Гаворка пра павышэнне заробку зараз не ідзе, паколькі ў дадзенай сітуацыі неабходна забяспечыць людзей працай, вярнуць ранейшыя аб'ёмы, каб людзі мелі магчымасць зарабіць і каб, у тым ліку, выконваўся працоўны дагавор.

**– Сяргей Міхайлавіч, а якая сёння сітуацыя з заробкамі непасрэдна на «Беларуськаліі»? Тыя, хто працуе ў забоі, колькі зарабляюць?**

– «Беларуськалій» перажывае таксама не лепшыя часы. У мінулым годзе адбылося рэзкае – на 30 працэнтаў – падзенне цэн на ўгнаенні, што, безумоўна, паўплывала на рэнтабельнасць прадпрыемства – яна ўпала. Але калектыўныя дамовы ў цэлым выконваюцца – і гэта галоўнае для нас. А што тычыцца заробкаў... Аб'ёмы працы захоўваюцца, руда здабываецца, ўгнаенні выпрацоўваюцца... У мінулым годзе іх было выраблена практычна столькі ж, колькі і ў 2015-м, але сусветная цана ўпала, і гэта, вядома, не магло не адбіцца на зарплаце. Тым больш што ёсць пастанова Савета міністраў №744, якая абмяжоўвае рост заработнай платы, калі няма апераджальнага росту прадукцыйнасці працы.

**– Дык колькі цяпер зарабляюць гарнякі?**

– Сярэднямесячная зарплата па прадпрыемстве летась склала каля 1800 рублёў.

**– А ў гэтым годзе?**

– Думаю, засталася на ранейшым узроўні. Але ж адбылося падзенне рэальнай зарплаты, таму што інфляцыю ў краіне, рост цэн ніхто не адмяняў. Пакупніцкая здольнасць беларусаў падае. Незалежны прафсаюз гарнякоў шмат надае ўвагі гэтаму пытанню, і мы ўжо дамагліся пэўных вынікаў. Прынята рашэнне з 1 красавіка гэтага года павялічыць тарыфную стаўку першага разраду на "Беларуськаліі" на 15 працэнтаў.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

НАДВОР'Е

## Калі пацяплее?

Калі верыць **Дзмітрыю Рабаву,** увесь гэты тыдзень будзе захоўвацца халоднае надвор'е. Паводле яго слоў, тэмпература паветра прагназуецца на 3–7 градусаў ніжэй за норму (а норма для гэтага часу – ад 4 да 7 градусаў цяпла).

У Беларусі пацяплее толькі ў апошнія пяць дзён красавіка.

ПРЭС-ТУР

# Электрастанцыя пад Брагінам

*Яе плошча складае 40 футбольных палёў.*



З-за чарнобыльскай катастрофы асобныя тэрыторыі раёна і сёння не прыдатныя для сельскагаспадарчага выкарыстання. Менавіта ў такім месцы знаходзіцца электрастанцыя. Яна карэнным чынам адрозніваецца ад тых, якія будаваліся 30–40 гадоў таму. У аснове яе дзейнасці – сонечныя батарэі. Іх парк ў вёсцы Сабалі з'яўляецца самым буйным у Беларусі *(на фота).*

– *Гэта ўнікальны аб'ект,* – падкрэсліў днямі ў размове з журналістамі, якія бралі ўдзел у прэс-туры, арганізаваным Дэпартаментам па ліквідацыі наступстваў на ЧАЭС, намеснік старшыні Брагінскага райвыканкама па пытаннях эканомікі, гандлю і занятасці **Пётр Раманюк.** – *Брагін – самы паўднёвы раён краіны. У нас на 23 хвіліны даўжэй светлавы дзень, чым у Гомелі, на 9 хвілін – чым у Хойніках. Памножце гэтыя лічбы на месяц (год) – і колькі электраэнергіі атрымаецца дадаткова?! Вось чаму было прынята рашэнне ўзводзіць гэты ўнікальны аб'ект менавіта тут.*

Да красавіка 1986 года на гэтай тэрыторыі былі жывёлагадоўчы комплекс і сад. Пасля аварыі стала зразумела, што забруджаныя землі яшчэ доўга будуць непрыдатныя для сельскай гаспадаркі.

– *З-за катастрофы высяляліся цэлыя вёскі, адбывалася эвакуацыя насельніцтва,* – кажа мясцовы чыноўнік. – *Было знесена шмат дамоў. Тэрыторыі, якія падвергліся забруджванню, былі незапатрабаваныя.*

*Зараз выпрацоўка энергіі складае 18,48 МВт. Тут устаноўлена больш за 85 тысяч панэляў, якія дзейнічаюць круглы год. Розніца толькі ва ўмовах надвор'я і часу сутак.*

Сёння энергія, атрыманая на электрастанцыі, падаецца на Брагінскі, Хойніцкі, Лоеўскі раёны і часткова на Рэчыцкі. Парк сонечных батарэй у вёсцы Сабалі можна лічыць прыкладам эканамічна выгаднага выкарыстання забруджаных тэрыторый.

– *У месяц на станцыі выпрацоўваецца 3 мільёны кілават,* – тлумачыць галоўны энергетык Іван Раманенка. – *Для параўнання: маючы кватэру, я расходую 150 кілават. Мы атрымліваем энергію нават пры яркім месяцы. Кожная панэль выведзена на манітор, дзе мы адсочваем працу ўсяго комплексу.*

Абслугоўваннем сонечнага парку займаюцца ўсяго некалькі чалавек. Пра ўзровень заработнай платы на аб'екце казаць не сталі.

– *Працаваць сюды я прыехаў з Мінска,* – кажа Іван. – *Калі пераехаў, значыць, быў сэнс.*

На будаўніцтва парку выдаткавана 25 мільёнаў еўра. Як тлумачаць спецыялісты, тэрмін акупнасці аб'екта складае 5 гадоў.

**– Калі падобныя крыніцы альтэрнатыўнай энергіі выгадныя, то навошта нам было будаваць атамную станцыю?** – запыталіся журналісты.

– *Складанае пытанне,* – адказаў «Народнай Волі» Пётр Раманюк. – *Для нашага рэгіёна гэтага парку дастаткова. Але, каб забяспечыць энергіяй буйныя прамысловыя цэнтры, сонечных электрастанцый мала. Таму без атамнай энергетыкі пакуль не абысціся.*

## Без ільгот...

Пасля чарнобыльскай аварыі з Брагінскага раёна толькі паводле афіцыйных дадзеных было адселена 29 тысяч чалавек. У райцэнтры спынілі дзейнасць амаль усе прадпрыемствы прамысловасці.

Сёння ў горадзе насельніцтва цалкам адноўлена. Што радуе: нараджальнасць у чатыры разы вышэйшая за смяротнасць. У раёне, праўда, іншая сітуацыя: у мінулым годзе нарадзілася 186 чалавек, памерла 204.

Паводле слоў прадстаўнікоў мясцовай улады, медыцынскаму абслугоўванню насельніцтва тут надаецца вялікая ўвага, а ў раённую паліклініку на прыёмы запісваюцца аж з Гомеля.

Праблема, якая хвалюе мясцовы люд, – чаму тыя, хто трапіў пад уздзеянне чарнобыльскай катастрофы, не маюць адпаведных ільгот?

– *Я таксама ліквідатар, у той час працаваў у школе,* – сказаў «Народнай Волі» Пётр Раманюк. – *Каб даць ільготы ўсім пацярпелым, неабходна мець моцны бюджэт. На жаль, напаўненне яго звязана з многімі нявырашанымі пытаннямі...*

Брагін – толькі адзін з пунктаў прэс-тура, які праводзіўся напярэдадні чарговай гадавіны трагедыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі. У наступным нумары я падзялюся іншымі ўражаннямі.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

*Брагін.*

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# Блогер Пратасевіч у судзе даказаў, што здаваў экзамен, калі міліцыя «бачыла» яго ў Курапатах

Прынесці даведку з ВНУ і прывесці сваіх выкладчыкаў у суд спатрэбілася студэнту 3-га курса журфака БДУ, блогеру Раману Пратасевічу, каб даказаць, што ён здаваў экзамен раніцай 25 лютага. Справа ў тым, што ў гэты час міліцыянты, мяркуючы па адміністрацыйным пратаколе, бачылі яго на акцыі ў Курапатах.

Суд над блогерам пачаўся яшчэ 10 красавіка. На Пратасевіча склалі пратакол за ўдзел 25 лютага ў несанкцыянаванай акцыі ў Курапатах. У пратаколе правапарушэння было ўказана, што студэнт «актыўна ўдзельнічаў у незаконным пікетаванні на будаўнічай пляцоўцы па адрасе: Мірашнічэнкі, 49». Паводле звестак міліцыі, ён быў там у 10.00.



Але Пратасевіч прынёс даведку з дэканата, што ў гэты дзень ён здаваў на журфаку экзамен па прадмеце «Мова і стыль СМІ», які доўжыўся з 10.00 да 12.00. Гэтага аказалася недастаткова, і суддзя Дзмітрый Цыкал выклікаў у суд сведкамі выкладчыкаў, якія прымалі іспыт у Пратасевіча 25 лютага. 17 красавіка яны прыйшлі ў суд.

Дацэнт кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання журфака БДУ Вольга Горбач распавяла, што студэнты рыхтуюцца да адказу ў прысутнасці выкладчыкаў. Пераздача экзамена праходзіла з 10 да 12 гадзін. Паводле слоў выкладчыка, Пратасевіч быў на кафедры да 11.30–11.40.

– Здаў? – запытаўся суддзя.

– Вы ведаеце, нават на 5 здаў. Да гэтага была курсавая на 4, там шмат спісаў. А тут, напэўна, баяўся, падрыхтаваўся. Я нават ўзрадавалася, што не на 4.

Старшы выкладчык Маргарыта Цыбульская таксама пацвердзіла, што Пратасевіч 25 лютага здаваў экзамен, але ўжо не памятае, з якога да якога часу ён знаходзіўся на кафедры.

– Ён нядрэнна здаваў, дарэчы. Зрабіў нядрэннае ўражанне.

Суддзя пайшоў у дарадчы пакой, а калі вярнуўся, заявіў, што віна Пратасевіча не даказана.

– Справа аб адміністрацыйным правапарушэнні ў дачыненні да Пратасевіча спыніць за недаказанасцю яго вінаватасці.

Сябры Пратасевіча і іншыя актывісты ў зале сустрэлі рашэнне суддзі апладысментамі.

Раней Пратасевіч адбыў 10 сутак арышту пасля затрымання на акцыі 26 сакавіка ў Мінску каля Кастрычніцкай плошчы.

(tut.by.)

ПРЫЗНАЧЭННІ

# Генадзь Казакоў – дырэктар ААТ «Агат – сістэмы кіравання»



Аляксандр Лукашэнка вызваліў Генадзя Казакова ад абавязкаў начальніка сувязі Узброеных сіл і прызначыў яго дырэктарам ААТ "Агат – сістэмы кіравання".

Г.Казакову – крыху больш за 50 гадоў. Родам з Магілёўшчыны. Пасля школы закончыў Ульянаўскае вышэйшае каманднае вучылішча сувязі. З 1998-га па 2000 год вучыўся ў Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь.

ДИСКУССИЯ

# Так кто же мешает политической модернизации?

Статья Вячеслава Оргиша «Белорусские оттенки политической модернизации» *(Н.В., 04.04.2017)* – это не первая его публикация подобного рода. Раньше ему охотно предоставляли свои страницы государственные газеты. Главный пафос публицистики этого автора, на мой взгляд, состоит в том, чтобы «мочить» оппозицию за ее якобы радикализм («бессмысленный радикализм оппозиционных маргиналов»). Хотя не понятно, в чем он состоит, автор не приводит ни одного факта. В.Оргиш повторяет все утверждения официальной пропаганды об оппозиции как о «пятой колонне», оправдывает действия властей, которые не пускают политических оппонентов в системную политику. Слабая, выброшена из системы, загнана в политическое гетто, оппозиция («маргиналы») тем не менее каким-то странным образом мешает главе государства привести белорусский народ к полному счастью.

В своем оправдании действующего режима автор подвергает сомнению саму ценность демократии. Он пишет: «*Универсальное содержание идеи демократии, к которому апеллируют ее современные апостолы и миссионеры, нигде и ничем не подтверждено, оно не является теоретически или практически доказанным фактом. Природа этого явления заключается преимущественно в особенностях общественного развития западной цивилизации. Западное мышление сформировало представления об универсальных ценностях бытия и посредством культурной экспансии, философских, теологических дискурсов распространило их в мире. Смысл идеи демократии, определенный на основании рациональных критериев и исторически сложившихся политических привычек западного общества, западное политическое мышление считает абсолютным и непреложным для всех живущих на Земле. Однако такая точка зрения не более чем самонадеянное допущение... Из того, что в Вашингтоне и Брюсселе договорились понимать демократию так, как они ее понимают, еще не следует, что Минску, или Киеву, или Пекину заказано понимать демократию как-то иначе*».

Вот интересно узнать: а что из западной демократии в Минске не подходит? Свободные выборы? Верховенство права, соблюдение властью Конституции и законов?

Как-то одиозно выглядят заключения В.Оргиша. Ибо А.Лукашенко любит заявлять, что демократии у нас не меньше, чем в Европе. Таким образом, расхождение автора статьи «Белорусские оттенки политической модернизации» с белорусским независимым обществом уже не только тактическое (вопрос о допустимой степени радикализма), а ценностное.

Но вернемся к оппозиции. То есть получается, что будь у нас другая оппозиция, «конструктивная», которая отказалась бы от самой идеи демократии и борьбы за нее, то тогда ее пустили бы в системную политику и в Беларуси наступило бы полное благолепие.

Однако реальная проблема совсем в другом. Оппозиция в Беларуси разная, в том числе по степени радикализма. Если бы у властей было желание иметь «конструктивную оппозицию», то найти такую было бы совсем не сложно. Вот, например, «Говори правду!» уже два года претендует на эту роль. Но ее представителей почему-то упорно не пускают в выборные органы власти.

Более того, в Беларуси есть партия, которая уже много лет просто просится взять ее в роли подставной оппозиции. Имею в виду Либерально-демократическую партию. И что же? Вот С.Гайдукевича взяли наконец в Совет Республики, когда он в силу возраста уже не представляет для властей никакой опасности. А Гайдукевича-младшего, Олега, демонстративно бортанули в ходе выборов в Палату представителей в прошлом году.

Поэтому, даже если оппозиция полностью капитулирует, откажется отстаивать ценности демократии, как призывает В.Оргиш, совсем не факт, что она будет допущена в системную политику.

Проблема Беларуси состоит в радикализме действующего режима, который не приемлет самой идеи оппозиционности. Она, я считаю, ей чужда. Больше 20 лет А.Лукашенко старательно выпалывал и вытаптывал политическое поле, создавал модель, в которой даже следов какой-то оппозиционности не просматривается. И с какой стати он вдруг станет модернизировать эту систему?

**Валерий КАРБАЛЕВИЧ, кандидат исторических наук**

РЕЙТИНГ

# Размер активов и итоги деятельности белорусских коммерческих банков за 2016 год

| № п/п | Наименование банка | Активы на 1.01.2017, тыс. руб. | Отношение к активам на 1.01.2016, % | Кредиты клиентам на 1.01.2017, тыс. руб. | Отношение к кредитам на 1.01.2016, % | Доля кредитов клиентам в активах на 1.01.2017, % | Средства клиентов на 1.01.2017, тыс. руб. | Отношение к средствам клиентов на 1.01.2016, % | Собственный капитал на 1.01.2017, тыс. руб. | Отношение к собственному капиталу на 1.01.2016, % | Доля накопленной прибыли в собственном капитале на 1.01.2017, % | Чистые отчисления в резервы за 2016 г., тыс. руб. | Отношение к чистым отчислениям в резервы за 2015 г., % | Прибыль (убыток) до налогообложения за 2016 г., тыс. руб. | Отношение к прибыли до налогообложения за 2015 г., % | Отношение прибыли до налогообложения за 2016 г. к активам на 1.01.2017, % |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | ОАО «АСБ Беларусбанк» | 27 850 813 | 104 | 15 722 193 | 99,2 | 56,5 | 17 115 464 | 107 | 3 596 895 | 103 | 14,1 | 622 319 | 167 | 184 889 | 154 | 0,66 |
| 2 | ОАО «Белагропромбанк» | 9 286 610 | 102 | 4 990 234 | 78,3 | 53,8 | 5 750 608 | 106,6 | 1 214 428 | 93,6 | 22,5 | 112 006 | 83,3 | 207 752 | 293 | 2,2 |
| 3 | ОАО «БПС-Сбербанк» | 5 053 334 | 79,4 | 3 184 782 | 75,4 | 63 | 2 482 292 | 86,2 | 453 741 | 100,5 | 70,8 | 157 133 | 68 | 2 707 | 12,6 | 0,05 |
| 4 | ОАО «Банк БелВЭБ» | 3 999 836 | 118 | 2 391 934 | 110 | 59,8 | 1 901 237 | 130 | 466 955 | 115,6 | 46,2 | 82 080 | 70,8 | 68 956 | 105,6 | 1,7 |
| 5 | ОАО «Белинвестбанк» | 3 543 777 | 95,5 | 1 918 282 | 90,2 | 54,1 | 2 342 768 | 89,3 | 454 934 | 129 | 21,5 | 155 562 | 149 | 806 | 7,9 | 0,023 |
| 6 | ОАО «Белгазпромбанк» | 3 152 719 | 105 | 1 662 626 | 100,6 | 52,7 | 1 821 842 | 92 | 451 298 | 118 | 42,2 | 36 350 | 51,7 | 123 546 | 99,5 | 3,9 |
| 7 | ОАО «Приорбанк» | 2 713 367 | 109 | 1 553 404 | 114 | 57,3 | 1 892 964 | 113 | 517 427 | 115 | 42,6 | 82 426 | 46,8 | 148 015 | 98,7 | 5,5 |
| 8 | ЗАО «Альфа-Банк» | 1 315 937 | 98 | 782 987 | 85 | 60 | 875 386 | 140 | 159 299 | 108 | 41 | 27 773 | 28 | 48020 | 206 | 3,7 |
| 9 | ЗАО «Банк ВТБ» (Беларусь) | 1 211 924 | 84 | 620 271 | 73,3 | 51,2 | 777 981 | 96,5 | 155 257 | 112 | 23 | 81 997 | 95,3 | 16 688 | 124 | 1,4 |
| 10 | ОАО «Банк Москва — Минск» | 865 667 | 101 | 525 166 | 91 | 61 | 582 777 | 107 | 91 040 | 103 | 55 | 25 074 | 102 | 5 332 | 30,4 | 0,6 |
| 11 | ЗАО «МТБанк» | 745 046 | 124 | 475 955 | 120 | 64 | 572 833 | 132,4 | 84 398 | 122 | 69 | 30 141 | 48,7 | 49 343 | 869 | 6,6 |
| 12 | ОАО «Технобанк» | 486 619 | 157 | 235 768 | 173,4 | 48,5 | 309 648 | 150 | 58 027 | 107 | 48 | 19 965 | 118 | 3 464 | 93,3 | 0,7 |
| 13 | ЗАО «ТК Банк» | 437 430 | 113 | 728 | 2,6 | 0,17 | 3 032 | 258 | 145 089 | 146 | 47 | -42 694 | - | 63 095 | 301 | 14,4 |
| 14 | ОАО «БНБ-Банк» | 404 620 | 103 | 258 766 | 105 | 64 | 247 591 | 98,9 | 52 968 | 107,5 | 48,4 | 14 169 | 135 | 3 727 | 30,6 | 0,92 |
| 15 | ОАО «Паритетбанк» | 366 410 | 131 | 171 462 | 164 | 46,8 | 187 552 | 114 | 99 216 | 109 | 17,9 | 4 450 | 35,3 | 8 492 | 228 | 2,3 |
| 16 | ЗАО «Идея Банк» | 325 364 | 95 | 134 419 | 85 | 41,3 | 205 132 | 82,5 | 76 538 | 121 | 44 | -11 639 | - | 27 105 | 284 | 8,3 |
| 17 | ЗАО «БСБ Банк» | 251 772 | 142 | 3 233 | 61 | 1,3 | 190 874 | 155 | 52 791 | 112 | 23 | 4 256 | 85 | 14 833 | 91 | 5,9 |
| 18 | ЗАО «РРБ-Банк» | 180 843 | 96,7 | 57 333 | 95,7 | 31,7 | 124 833 | 104,3 | 39 901 | 113 | 29,2 | 391 | 9,3 | 4 192 | 5175,3 | 2,3 |
| 19 | ОАО «Франсабанк» | 125 616 | 99 | 51 115 | 98,7 | 40,7 | 42 821 | 104 | 43 480 | 121 | 29 | 1 313 | 63 | 4 664 | 118 | 3,7 |
| 20 | ЗАО «БТА Банк» | 125 020 | 143 | 58 105 | 101 | 47 | 51 403 | 102 | 41 822 | 242 | 22,6 | 2 245 | 140 | 6 437 | 959 | 5,2 |
| 21 | ЗАО «Банк «Решение» | 123 011 | 105 | 53 231 | 110 | 43,3 | 72 514 | 108 | 43 530 | 106 | - | 6 024 | 523 | 6012 | - | - |
| 22 | ЗАО «АБСОЛЮТБАНК» | 105 396 | 103 | 33 802 | 75 | 32,1 | 31 895 | 72,6 | 51 822 | 111 | 17,4 | 322 | 0 | 4 030 | 48,4 | 3,8 |
| 23 | ОАО «Евроторгинвестбанк» | 98 111 | 120 | 54 222 | 111 | 55,3 | 27 571 | 150 | 52 757 | 113 | 13,4 | 3 549 | 47,4 | 7 554 | 281 | 7,7 |
| 24 | ЗАО «Цептер Банк» | 89 990 | 103 | 39 846 | 93,7 | 44,3 | 49 110 | 108 | 38 144 | 106 | 42 | 461 | 9 | 1 696 | 21,3 | 1,9 |



ИЗ ПОЧТЫ ГЛАВНОГО РЕДАКТОРА

**Главному редактору газеты «Народная Воля» И.П.Середичу**

*Здравствуйте, Иосиф Павлович!*
*Разрешите представиться. Я пенсионер, 76 лет, кандидат технических наук.*
*В 1990 году получил сертификат США по экономике.*
*С 2013 года пытаюсь показать законодательной и исполнительной власти, что закон от 31 декабря 2013 года №96-з и Указ Президента №53 от 15 февраля 2016 года попирают принципы справедливости и равноправия.*
*Но за три года я ничего не добился. Все упирается в бюрократию. Суть моих мытарств и мои предложения изложены в открытом письме Президенту Республики Беларусь А.Г.Лукашенко.*
*Может быть, через газету можно достучаться до Президента.*
*Прошу Вас опубликовать мое письмо в одном из номеров «Народной Воли».*

**Н.И.ОВСЯННИКОВ.**
*Минск.*

# Открытое письмо
## Президенту Республики Беларусь А.Г.Лукашенко

Здравствуйте, Александр Григорьевич!

Обратиться к Вам через газету заставляет меня бюрократия, засевшая вокруг Вас.

Начиная с 2014 года я несколько раз пытался рассказать Вам о том, что меня волнует, но безуспешно. Более четырех месяцев назад я направил обращение на Ваш сайт и получил сообщение, что оно рассмотрено не будет, так как «не соответствует Указу».

Что значит «не соответствует Указу»? Ведь вопросы, которые я поднимаю, волнуют тысячи людей. Но обо всем по порядку.

Я пенсионер, мне 76 лет, трудовой стаж 44 года. Получаю трудовую пенсию по возрасту. Имею легковой автомобиль, которому менее 10 лет. В этом году мне необходимо проходить техосмотр. Для получения отметки об исправности машины я обязан оплатить госпошлину за допуск к участию в дорожном движении за два года вперед, что составляет 276 рублей (масса автомобиля 1610 кг), оплатить стоимость страхования гражданской ответственности, техосмотр. Набегает сумма в пределах не менее 350 рублей. Из каких средств ее взять, если она превышает среднюю трудовую пенсию по стране, а других источников дохода у пенсионера нет?

В первом квартале 2014 года я платил за свой автомобиль госпошлину в размере 1.300.000 рублей за два года, что после деноминации составляет 130 рублей. За три года размер госпошлины для меня вырос на 112,3%, а пенсия за это время в долларовом выражении снизилась почти в два раза. Как быть?

Заместитель председателя постоянной комиссии Палаты представителей В.А.Бороденя рекомендует начинать платить пошлину за два года до прохождения техосмотра частями.

Размер госпошлины определен, исходя из базовой величины, которая растет каждый год. Причем для разных групп легковых автомобилей пошлина различна. Например, за авто с массой до 1,5 т – 3 базовые величины, а с массой 1,5–2,0 т – 6 базовых величин, то есть владелец автомобиля с массой 1,5 т обязан платить в 2017 году пошлину в размере 69 рублей, а владелец авто с массой на несколько килограммов больше 1,5 т должен заплатить 138 рублей. Где справедливость? Где логика?

Причина в том, что неверно выбрана градация пошлины по массе автомобилей. В качестве определяющего параметра при определении госпошлины следовало бы выбрать тонну максимально допустимой массы автомобиля и установить пошлину, равную трем базовым величинам на тонну массы. Сразу устанавливается справедливость и исчезает неравноправие, так как в этом случае пошлина будет расти пропорционально росту массы автомобиля.

Существующая практика оплаты госпошлины не учитывает пробега автомобиля. Я за год проезжаю не более 5000 километров. Со второй половины октября до середины апреля автомобиль стоит на приколе в гараже. Однако государство обязывает меня платить госпошлину за два года вперед, хотя в течение этих двух лет половину срока я автомобиль не эксплуатирую. Справедливо это?

Я вожу автомобиль с 70-х годов прошлого века. До выхода на пенсию проезжал за год не менее 30.000 километров. Сегодня большинство владельцев авто ездят круглый год и проезжают за год не менее 30.000 километров. Давайте посчитаем, какую пошлину плачу я за 100 километров пробега и сравним с пошлиной, которую платит владелец автомобиля с массой, равной массе моего автомобиля, за 100 км пробега. Расчет показывает, что я плачу пошлину за 100 км пробега 2,76 рубля, а владелец авто, проезжающий в год 30.000 км, – 0,46 рубля. Справедливо?

Для сведения. В России транспортный налог платится в конце года по представлению налоговой квитанции.

По сообщениям, появляющимся в прессе, более 30% владельцев легковых автомобилей не платят госпошлину и ездят без техосмотра, так как значительно дешевле оплатить штраф за езду без техосмотра, чем платить госпошлину.

Еще на стадии разработки закона от 31 декабря 2013 года №96-з я вносил в Национальное собрание предложение о включении госпошлины в розничную цену топлива. В течение трех лет я с этим обращением пытался пробиться к Вам, Александр Григорьевич, в Нацсобрание, на Всебелорусский съезд. Но клерки, сидящие в коридорах власти, считают, что это невозможно. Мол, невозможно «разделить использование топлива в коммерческом секторе и в частном». Считаю это надуманной проблемой.

Ради справедливости следует отметить, что в 2014 году стараниями депутата С.В.Шиловой пошлина для пенсионеров была снижена на 50%, но с 2016 года эта льгота была отменена.

Введение госпошлины в розничную цену топлива имеет ряд преимуществ:

– объем сжигаемого топлива будет учитывать пробег автомобиля, его массу, мощность двигателя и даже тип резины;

– заставит платить пошлину тех, кто сегодня ездит без техосмотра и не платит пошлину;

– заставит платить пошлину автовладельцев из других стран, которые въезжают в страну и заправляются топливом.

В этом случае пенсионерам не нужны льготы.

Если Вы, Александр Григорьевич, считаете мои предложения неприемлемыми, прошу Вас хотя бы предусмотреть для пенсионеров оплату госпошлины частями.

Заранее благодарен –

**Николай Игнатьевич ОВСЯННИКОВ, кандидат технических наук, пенсионер.**

МУДРЫЕ МЫСЛИ

*У тебя есть враги? Хорошо. Значит, в своей жизни ты что-то когда-то отстаивал.*

**У.Черчилль.**



РЭДКІ ВЫПАДАК

# Дзіўны праваабаронца



У лютым журналісты даведаліся аб стварэнні сацыяльна-інфармацыйнай установы **"ТаймАкт"**, *"асноўнай задачай якой будзе праваабарончая дзейнасць, і ў прыватнасці – абарона правоў зняволеных"*. Яе дырэктарам стаў **Васіль ЗАВАДСКІ**, які да гэтага 12 гадоў быў... начальнікам медслужбы Дэпартамента выканання пакаранняў МУС...

**– Васіль Іванавіч, чыя была ідэя стварэння такой установы?**

– Я маю вялікі досвед працы ў пенітэнцыярнай сістэме.

У адной з калоній пазнаёміўся з Міколам Аўтуховічам, які ў той час адбываў пакаранне. Калі ён вызваліўся, працягнулі сустрэчы. Падчас іх і абмеркавалі тэму, як можна дапамагаць тым, хто знаходзіцца за кратамі. Адным словам, наша ідэя была ажыццёўлена, установу зарэгістравалі ў Мінгарвыканкаме. І ўжо сёння, амаль за два месяцы працы, мы маем шмат зваротаў як ад зняволеных, так і ад іх блізкіх.

**– А чым вы рэальна можаце дапамагчы тым, хто да вас звяртаецца?**

– У сваёй большасці людзі незадаволены прысудамі і просяць юрыдычнай дапамогі. На жаль, у нас пакуль няма рэсурсаў, каб гэта рабіць у поўным аб'ёме, але ж мы толькі пачалі працаваць. Больш займаемся тым, што інфармуем людзей найперш па медыцынскай дапамозе у месцах пазбаўлення волі, робім запыты па іншых ўзніклых у вязняў праблемах у Дэпартамент выканання пакаранняў у калоніі, у пракуратуру. Акрамя таго, адзін з накірункаў нашай працы – інфармаванне грамадскасці пра тое, што адбываецца ў пенітэнцыярнай сістэме. Бо калі вязням ствараюцца праблемы, то адміністрацыя папраўчых устаноў зацікаўлена, каб смецце з хаты не выносілі. Але, на мой погляд, маўчаць у такой сітуацыі – гэта гуляць па правілах шулера.

**– Пагодзімся, што крыху незвычайная сітуацыя – былая высокая службовая асоба Дэпартамента выканання пакаранняў і раптам узначальвае арганізацыю, якая будзе абараняць правы зняволеных...**

– А ў мяне яшчэ падчас ранейшай працы была схільнасць да праваабарончай дзейнасці. Я рабіў усё, што было ў маіх сілах, каб вырашаць праблемы вязняў, якія да мяне звярталіся як да службовай асобы. Жаданне дапамагаць людзям, энергія засталіся і зараз.

**– Дарэчы, як вы патрапілі на пасаду начальніка медслужбы?**

– Закончыў у 1985 годзе з "чырвоным" дыпломам Віцебскі медыцынскі інстытут па спецыяльнасці "псіхіятрыя", атрымаў размеркаванне ў сістэму МУС. Сказалі, што толькі там па маёй спецыяльнасці ёсць вакансіі. Хаця, шчыра кажучы, не думаў, што траплю на працу ў калонію. Тым не менш так атрымалася.

Спачатку быў простым урачом у калоніі, потым – начальнікам медыцынскай часткі, затым начальнікам рэспубліканскай бальніцы, што знаходзілася на вуліцы Кальварыйскай. А ўжо пасля гэтага – пасада начальніка медыцынскай службы Дэпартамента выканання пакаранняў, якую і займаў 12 год.

**– Ці складана было працаваць вам як медыку ў такіх спецыфічных установах і з такімі ж спецыфічнымі пацыентамі?**

– Вельмі складана, асабліва спачатку. Я пачаў працу ў калоніі ў 1986 годзе, калі быў яшчэ Савецкі Саюз, памятаю, як няпроста даводзілася. Своеасаблівая публіка, былі і пагрозы, і сімуляцыі...

**– На якія хітрыкі ішлі асуджаныя, каб дасягнуць нейкай сваёй мэты?**

– Тут вельмі шырокі спектр. Калі працаваў начальнікам медыцынскай часці 14-й калоніі ў Навасадах, адзін асуджаны вырашыў мяне адукаваць – склаў цэлы спіс такіх хітрыкаў. Чаго там толькі не было! Ад звычайнага націрання градусніка пад пахай да самых радыкальных захадаў. Напрыклад, некаторыя сціралі цукар у пыл і ўдыхалі ўсё гэта. У выніку – запаленне лёгкіх. У маёй практыцы быў выпадак, калі чалавека пасля гэтага мы не змаглі выратаваць. Людзі глыталі лыжкі, заганялі сабе цвікі і іншыя рэчы пад скуру... Па розных прычынах. Некаму трэба было схавацца "на бальнічцы", хтосьці ў карты прайграў. Я сам неаднойчы зашываў у калоніі рукі і нават жываты зняволеным, калі яны, як кажуць, "ўскрываліся".

**– Многія вязні, якія выходзілі на волю, наракалі ў першую чаргу на дрэннае медыцынскае абслугоўванне ў месцах пазбаўлення волі...**

– У гэтых словах прысутнічае і легенда, і праўда. Калі я працаваў, у пенітэнцыярнай сістэме былі 34 медыцынскія часці і дзве бальніцы. Зразумела, што былі розныя спецыялісты, у якіх featured рознае стаўленне да пацыентаў. Мы праводзілі з імі адпаведную работу, гутаркі, тлумачылі, што да асуджаных трэба найперш ставіцца па-чалавечы. Але варта разумець, што многія са зняволеных далёка не анёлы і яны часам агрэсіўна настройваліся ў адносінах да ўрачоў.

**– У часы вашай працы аб'яўлялі за кратамі галадоўку і палітзняволены Мікалай Аўтуховіч, і экс-кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Казулін. Як вы тады вымушаны былі рэагаваць на гэтыя акцыі пратэсту?**

– Я асабіста сустракаўся і з Мікалаем Аўтуховічам, і з Аляксандрам Казуліным. Дарэчы, пасля нашай з Міколам размовы ён спыніў галадоўку, я прыехаў у бальніцу і змог давесці чалавеку, што ёсць рэальная пагроза яго жыццю. Да Казуліна таксама наведаўся ў калонію ў Віцебску, але з ім тады паразумення мы так і не знайшлі. Хаця я абодвум казаў, што шчыра спачуваю ім і разумею іх пазіцыю. Дарэчы, за кратамі нярэдка галадаюць і іншыя асуджаныя, але паколькі яны не публічныя асобы, то пра такія пратэсты на волі не чуваць.

**– Калі б з тым жа Казуліным нешта здарылася, гэта для вашай службы было б надзвычайным здарэннем?**

– Зусім не, бо людзі самі зрабілі свой выбар. У 1980-я гады ў калоніях практыка прымусовага кармлення была звычайнай справай. Існавалі нават адпаведныя медыцынскія інструкцыі, як усё правільна рабіць. Але затым ад гэтага пачалі адыходзіць. Чалавек вырашыў галадаць? Яго права. І толькі калі ён губляе прытомнасць, мы пачынаем працаваць як медыкі. Іншая справа, што ў такіх сітуацыях не заўсёды можна і дапамагчы. Я заўсёды з павагай ставіўся да моцных духам людзей, але і сёння ўпэўнены, што галадоўка – не самы годны метад пратэсту. І Міколу ў свой час казаў: "Памрэш – і каму ад гэтага будзе лягчэй?"

**– У 2010 годзе вы аказаліся пад крымінальным пераследам...**

– Я і ў страшным сне не мог уявіць, што сам калі-небудзь магу аказацца за кратамі. Як кажуць, па той бок дроту. Але атрымалася тое, што атрымалася. Адзін з супрацоўнікаў дэпартамента папрасіў мяне знайсці для яго звычайны транквілізатар "Ксанакс". У аптэцы яго купіць было немагчыма, таму звярнуўся да сваіх падначаленых у калоніі. Мне дапамаглі, але аказалася, што мой тэлефон праслухоўваўся. І ў лютым 2010 года мяне затрымалі. Я толькі тады і даведаўся, што адзін крымінальны артыкул аб'ядноўвае і наркотыкі, і звычайны транквілізатар. Адным словам, я, як хлопчык, папаўся з гэтымі лекамі. Не кажу, што зрабіў правільны ўчынак, але і сёння не бачу ў гэтым злачынства. Раней той жа "Ксанакс" прадаваўся нават без рэцэпта. Самае прыкрае, што акрамя мяне пацярпелі яшчэ і мае калегі, да якіх я звярнуўся за дапамогай, і на судзе я папрасіў у іх прабачэння. Дарэчы, калі знаёміўся са справай, даведаўся, што я быў на "праслушцы" амаль паўгода...

**– А навошта вашаму знаёмаму спатрэбіліся транквілізатары?**

– Розныя бываюць сітуацыі ў людзей. Гэтыя лекі прымаюцца, калі ў чалавека стрэсавая сітуацыя, дапамагаюць пазбегнуць гіпертанічнага крызу... Яны не выклікаюць нейкіх парушэнняў псіхікі, а проста павышаюць стрэсаўстойлівасць.

Але, думаю, гэта была проста нагода для майго затрымання, бо, пакуль я знаходзіўся ў следчым ізалятары КДБ, мне задавалі пытанні не толькі пра транквілізатары. Якія ў мяне блізкія за мяжой? Што за стасункі маю з былым начальнікам СІЗА-1 і аўтарам кнігі "Расстрельная команда" Алегам Алкаевым, які таксама з'ехаў за мяжу? Чаму дачка вучыцца ў Вільнюсе ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце?

**– Былі здагадкі, чаму спецслужбы пачалі вас праслухоўваць?**

– Не ведаю дакладна, але так супала, што гэта пачалося пасля таго, як мы правялі чарговую міжнародную навукова-практычную канферэнцыю па праблемах пенітэнцыярнай медыцыны. Тады мяне знаёмыя, дарэчы, і папярэдзілі: "Табой цікавіцца КДБ". Я яшчэ пажартаваў у адказ: "І павінны цікавіцца, бо прыехалі замежнікі".

Але, ведаеце, у тыя часы я не надта і хаваў сваю грамадзянскую пазіцыю. Можа быць, і гэта паўплывала. Напрыклад, калі працаваў у калоніі ў Навасадах, то перавёў справаводства на беларускую мову. У 1990-я гады гэта было нармальнай з'явай, а вось пазней маглі запісаць і ў "нацыяналісты". Памятаю, калі ў Дэпартаменце выканання пакаранняў узгадняли маю кандыдатуру, я чакаў пад дзвярыма і чуў, як адзін з кіраўнікоў гучна сказаў: "Вы каго прызначаеце? Ён жа "бээнэфавец"!.." Хаця я ўвогуле не меў ніякага дачынення да нейкіх партый ці рухаў.

**– І які вас чакаў прысуд?**

– Два з паловай гады пазбаўлення волі мінус год па амністыі. З улікам умоўна-датэрмінова́га вызвалення і часу, які правёў у СІЗА, у калоніі давялося правесці ўсяго каля месяца. Адным словам, у лютым затрымалі, а Новы год ужо сустракаў дома.

**– Вось ужо праўду кажуць: ад сумы і ад турмы не заракайся. Як сустрэла калонія былога начмеда Дэпартамента выканання пакаранняў?**

– Нармальна сустрэла, я нават сказаў бы, з павагай. "Турэмнае радыё" працавала спраўна, таму там ужо ведалі, што да іх павінен прыйсці такі чалавек. Але нейкага асаблівага стаўлення не было. Разам з іншымі зняволенымі пілі моцную гарбату, некаторыя звярталіся за медыцынскімі кансультацыямі.

**– А адміністрацыя ўстановы да вас ставілася як да "свайго" ці ўжо як да "чужога"?**

– Нейтральна. Начальнік калоніі, якога я, да слова, добра ведаў, выклікаў, адбылася дыпламатычная гутарка. Але было дзіўна, калі медсёстры пачалі мне скардзіцца, што іх прымушаюць весці нейкую дадатковую дакументацыю. Я ім кажу: "Сястрычкі, вы, напэўна, пакуль яшчэ не разумееце, які ў мяне зараз статус". – "Разумеем, Васіль Іванавіч, але вы ўсё роўна паўплывайце на наша начальства".

**– Чым вы займаліся пасля таго, як выйшлі на волю?**

– Я ўжо казаў: стаў супрацоўнічаць з міжканфесійнай місіяй "Хрысціянскае сацыяльнае служэнне", з хрысціянскімі цэрквамі. Зараз да гэтага дадалася яшчэ і праца па абароне зняволеных. Дапамагаць людзям – гэта Божая справа. Тым больш што гэта святы абавязак урача...

**Алесь СІВЫ.**
Фота аўтара.

**P.S.** *Са сваімі скаргамі і прапановамі тыя, хто знаходзіцца пад следствам, зняволеныя і іх блізкія могуць звяртацца ў сацыяльна-інфармацыйную ўстанову "ТаймАкт" па адрасе: 220052 г.Мінск, вул.Гурскага, 37, офіс 1Н; тэл.: (+375-17) 277-08-98 (аўтаадказчык, кругласутачна); (+375-25) 615-46-76.*

ФАКТ

## Нясуць валюту...

Мінулагодняя тэндэнцыя захоўваецца: беларусы прадаюць назапашаныя зберажэнні. Так, паводле дадзеных Нацыянальнага банка, за студзень–сакавік насельніцтва прадало банкам наяўнай замежнай валюты 1 млрд 609,25 млн долараў ЗША ў эквіваленце, а купіла 1 млрд 9,74 млн долараў. Такім чынам, чысты продаж наяўнай замежнай валюты фізічнымі асобамі ў студзені–сакавіку склаў 599,51 млн долараў.

Варта адзначыць, што ў першым квартале 2016 года насельніцтва таксама было чыстым прадаўцом валюты, аднак розніца паміж купляй і продажам была ўтрая меншай.

ЧУЛІ?

## Завербавалі дзвюх гамяльчанак

Беларускія праваахоўнікі затрымалі 20-гадовую грамадзянку Таджыкістана, якая спрабавала вывезці ў Расію дзвюх жыхарак Гомеля з мэтай уцягвання іх у прастытуцыю на тэрыторыі Санкт-Пецярбурга.

Пазней яны расказалі, як прайшла гэтая аперацыя.

Міліцыянеры ўстанавілі магчымую падазроную, якая прыехала ў Гомель для суправаджэння дзяўчат за межы дзяржавы і перадачы трэцім асобам. Дарэчы, сувязь з дзяўчатамі патэнцыяльныя працадаўца наладзіў з дапамогай папулярнай сацыяльнай сеткі ў інтэрнэце і не хаваў, што ім трэба будзе займацца прастытуцыяй. У асабістай перапісцы абмяркоўваліся ўмовы працы, пражывання і заробак.

Для канчатковага схілення да гэтага віду дзейнасці і суправаджэння ў Санкт-Пецярбург у Гомель выехала грамадзянка Таджыкістана. Затрыманне адбывалася на чыгуначным вакзале пры спробе пасадкі ў цягнік Гомель–Санкт-Пецярбург. Падчас вобыску ў 20-гадовай грамадзянкі Таджыкістана былі выяўлены праязныя дакументы і пашпарты завербаваных дзяўчат.

Гомельскім гарадскім аддзелам СК была распачата справа за выкарыстанне прастытуцыі або стварэнне ўмоў для прастытуцыі. Затрыманай пагражае пазбаўленне волі ад сямі да дзесяці гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

ВІНШУЕМ!



## Гаварцова выйграла турнір у ЗША

Беларускую тэнісістку Вольгу Гаварцову можна павіншаваць: яна выйграла ў ЗША турнір ITF з прызавым фондам 80 тысяч долараў. У фінальным паядынку яна перамагла амерыканку Аманду Анісімаву.

Вікторыя ў турніры прынесла В.Гаварцовай 12 тысяч долараў. У сусветным рэйтынгу яна цяпер займае 147-е месца, раней была на 190-м.

22 красавіка Вольга Гаварцова з'явіцца на корце мінскай "Чыжоўка-Арэны", дзе будзе праходзіць паўфінал Сусветнай групы Кубка Федэрацыі супраць каманды Швейцарыі.

